Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

21 мая 1991 г. АЎТОРАК

№ 97 (21625)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ТУРЫСТЫЧНЫЯ ШЛЯХІ АДКРЫВАЮЦЦА ЗНОЎ

**МІЁРЫ. Наша рэспубліка заўсёды славілася прыгажосцю сваёй прыроды. Праўда ў апошнія гады аб гэтым неяк не прынята гаварыць у сувязі са значным радыеактыўным забруджваннем тэрыторыі. Але ж неапраўдана забываюцца і экалагічна чыстыя раёны.**

Аб тым, як іх трэба выкарыстоўваць, паказваюць прыклад госці ажно з далёкай Адрыятыкі. Прадстаўнікі італьянскага турыстычнага бізнесу пабывалі ў раёне, дзе вялі перагаворы з мясцовымі ўладамі аб стварэнні сумеснага цэнтра адпачынку і палявання. Чакаецца, што летам будзе падпісаны кантракт аб супрацоўніцтве.

### СТАЎ ВАГОН КЕМПІНГАМ

**ПУХАВІЧЫ. (С. Ворскі). Яму і сапраўды няма куды болей спяшацца. Апошнюю «станцыю прыпіскі» амаль для цэлага саставу знайшлі работнікі Пухавіцкага раённага камбіната бытавога абслугоўвання. Адслужыўшыя сваё, спальныя вагоны сышлі з чыгуначных рэек на маляўнічы бераг ракі Свіслач і пераўтварыліся пры дапамозе мясцовых умельцаў у кемпінг для аўтамабілістаў.**

Кожны аматар падарожжа, накіроўваючыся з Мінска ў бок Бабруйска, зможа прыпыніцца тут на гадзіну-другую, адпачыць, падсілкавацца, а калі спадабаецца, то і застацца разам з сям'ёй. І цэны тут па сённяшнім часе даволі дэмакратычныя, не вышэй прэйскуранта гасцініцы пятага разраду.

— Пайсці на стварэнне такой падсобнай гаспадаркі прымушае няпростае фінансавае становішча раённых бытавікоў, — гаворыць дырэктар камбіната, дэпутат абласнога Савета А. Ляшэнка.—Прыбытак, які спадзяёмся атрымаць тут, пойдзе на пакрыццё страт ад утрымання сельскіх прыёмных пунктаў, а такіх на раёне каля трыццаці.

### «ДЛЯ ВАС» № 8

Выйшаў у свет чарговы выпуск дайджэста «Для Вас» — дадатку да «Звязды». У ім дапытлівы чытач знойдзе шэраг цікавых і разнастайных па тэматыцы публікацый. Напрыклад, інтэрв'ю зняволенага калоніі № 13 Ніжняга Тагіла Юрыя Чурбанава аб сваім ранейшым жыцці на волі, неверагодную версію смерці Напалеона, пра трагічны лёс адмірала Калчака, даўгі нашай краіны іншым дзяржавам. Прачытаеце пра надзвычай высокі ўзровень забяспечанасці валютай некаторых нашых камандзіровачных за мяжой.

Ёсць у нумары і больш «лёгкія», так званыя чытабельныя матэрыялы—пра сакрэты захоўвання прыгажосці Клеапатрай, мадам дэ Пампадур, славутай гетэрай Афін Аспазіяй. Даведаецеся, чым пагражае чалавеку захапленне парнафільмамі, як збавіцца ад лысіны і нават як стаць лаўрэатам Нобелеўскай прэміі.

### ХТО НАСТУПНЫ?

**МІНСК. (А. Зайкоўскі). Як вядома, урадам рэспублікі выпушчаны аблігацыі дзяржаўнай унутранай пазыкі пяціпрацэнтнай. Сродкі ад іх рэалізацыі мяркуецца накіраваць на фінансаванне праграм, якія забяспечаць сацыяльнае палажэнне людзей.**

Адным з першых дзяржаўных, кааператыўных і іншых арганізацый набыў аблігацый пазыкі на 7 мільёнаў рублёў камерцыйны банк «Беларусь». Хто наступны?

### «СВОБОДНЫЕ НОВОСТИ» УПАЎНАВАЖАНЫ ПРАПАНАВАЦЬ...

**Мы зрэдку знаёмім цяпер з выхадам новых выданняў, а тым больш — іх асобных выпускаў. І тым не менш свежы, восьмы нумар газеты «Свободные новости» ніяк не можа быць абыдзены «звяздоўскай» увагай. У гэтым нумары ёсць, так і хочацца сказаць, усё...**

Расказ Васіля Зданюка аб тым, як самалет-знішчальнік тараніў НЛА, тлумачэнні В. Ганчара і Г. Карпенкі пра свой «адыход у маладзечанскія тылы», новыя падрабязнасці гісторыі чарнобыльскага саркафага, прызнанні «чорнага палкоўніка» В. Алксніса, расказ наркаманкі пра тое, як «садзяцца на іголку» — усё гэта вы зможаце знайсці ў «Свабодных навостях». Вось яшчэ некалькі загалоўкаў некаторых матэрыялаў: «Савецкая «камерцыя» ў Польшчы», «Бомжу не да «Адыдаса», «Надзея нашай бяспекі? Цэрберы АКС? Ці лёгка быць амонаўцам»...

Асаблівую ўвагу выклікае стаўшая ўжо традыцыйнай паласа трох аўтараў—на гэты раз сваімі клопатамі дзеляцца вядомыя народныя дэпутаты Беларусі. Немагчыма ў некалькіх радках пералічыць усе цікавыя тэмы нумара. Можам параіць толькі набыць нумар папулярнай газеты «Свободные новости» ў кіёсках «Саюздруку».

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ

### СТРЭЛЫ НА ТАМОЖНІ

**МІНСК. (У. Гойтан). Позна вечарам 18 мая інспектар Воранаўскага райаддзела ўнутраных спраў капітан міліцыі Аляксандр Феясь быў забіты пры пад'ездзе да таможні.**

А вось як пракаменціравалі гэту падзею ў Пракуратуры БССР. У прыватнасці нам паведамілі, што ў гэты дзень капітан А. Феясь на ўласных «Жыгулях» ездзіў да родзічаў у Літву. Разам з ім у машыне былі жонка і двое малалетніх дзяцей. Пры пад'ездзе да таможаннага паста на літоўскім баку шашы Шальчынінкай-Воранава пачуліся стрэлы. Капітан спыніўся, выйшаў з машыны, каб высветліць у чым тут справа. І тут—новыя стрэлы. Абліваючыся крывёю, А. Феясь упаў. Ён памёр.

Калі ж на месца здарэння прыбыла аператыўная група, было выяўлена, што выстраламі разбіта левае задняе шкло на дзверцах, асколкамі паранены сын. Што датычыцца самога капітана, то ў яго целе выяўлена 15 раненняў, у тым ліку 5 — ад буйных карцечын. Узбуджана крымінальная справа.

У тую ж ноч на другім таможанным пасту быў забіты супрацоўнік літоўскага дэпартамента аховы краю Жагунас Гіндарас.

А на наступны дзень супрацоўнікі міліцыі на тэрыторыі Воранаўскага раёна сустрэлі ўзброеную групу. У затрыманых аказаўся аўтамат «Калашнікава», пісталет «ТТ», пяцізараднае паляўнічае ружжо і вялікая колькасць боепрыпасаў. Вядзецца следства.

### АБ АДКРЫЦЦІ ЧАЦВЁРТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Адкрыццё чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання адбудзецца 21 мая 1991 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР у Доме ўрада.

### Ад Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

**Вярхоўны Савет Беларускай ССР з глыбокім жалем паведамляе, што ў выніку аўтамабільнай катастрофы 16 мая 1991 года загінуў народны дэпутат Беларускай ССР, дырэктар саўгаса «Дзяржынскі» Нараўлянскага раёна Еўлашоў Дзмітрый Мікалаевіч.**

# Да мінулага вяртання няма

**А. МАЛАФЕЕЎ, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, член Палітбюро ЦК КПСС**

**У рэдакцыю «Звязды» паступілі шматлікія пытанні з просьбай, каб на іх адказаў першы сакратар ЦК КПБ, член Палітбюро ЦК КПСС А. А. Малафееў. У публікуемым сёння артыкуле чытачы знойдуць адказы на праблемы, якія ўзнімаліся ў большасці пісьмаў.**

**З высокіх трыбун,** у розных публікацыях усё часцей чуюцца закалыхваючыя галасы: вялікія перамены, асабліва такія грандыёзныя па задуме, як нашы, не абыходзяцца без цяжкасцей, гэта значыць за ўсё прыходзіцца плаціць. Відаць, з гэтым можна пагадзіцца. Іншая справа, якой павінна быць гэта плата. Яна ж аказалася неапраўдана вялікай.

Мінулае ў нас, асабліва людзей старэйшага пакалення, нялёгкае. Яно і гераічнае, якое саграе душу, і змрочнае, трагічнае, што яшчэ доўга будзе даваць аб сабе знаць. Але гэта наша гісторыя. І нельга яе яркія старонкі ўтоптваць у гразь, як гэта нярэдка робіцца сёння. Патрэбна праўда аб нашым мінулым, гэтак жа, як і поўная праўда аб цяперашнім жыцці грамадства.

З-за няўмення прадбачыць развіццё грамадскіх працэсаў, грубых пралікаў палітычнага і дзяржаўнага кіраўніцтва, непрадуманых эксперыментаў у ходзе перабудовы краіна аказалася на грані катастрофы. Але цяжкасць страт і нягод лягла на плечы ні ў чым не вінаватых людзей.

Крызіс, які захліснуў краіну, цяпер дасягнуў свайго апагея. Крызіс эканамічны, калі літаральна на вачах развальваецца народная гаспадарка і дэвальвуецца самае каштоўнае — чалавечая праца. Крызіс палітычны, калі нават з надзвычайнымі паўнамоцтвамі Прэзідэнта ўжываюцца анархія, вайна законаў. Крызіс маральны, калі пад корань падкошваюцца спрадвечныя прынцыпы дабра і справядлівасці, узаемапавагі і таварыскай падтрымкі. Калі ў такой драматычнай абстаноўцы з вуснаў вышэйшых кіраўнікоў чуеш заявы аб тым, што ўсё ідзе нармальна, так, як і павінна быць, то міжволі ў людзей нараджаецца пачуццё рашучага пратэсту.

Няўжо за гэта выступалі камуністы, падтрымліваючы палітыку абнаўлення ў красавіку 1985 года? Перамены радавалі, усялялі надзею, выклікалі імкненне закасаўшы рукавы працаваць. Магчыма, такое пачуццё зведвалі не ўсе, але асабіста я адчуў яго спаўна. Здавалася, мы на правільным шляху. Але з сярэдзіны 1988 года абазначыліся з'явы, якія адводзілі перабудову ад яе першапачатковых арыенціраў.

Канешне ж, карані ўсіх нашых бед не ў самой перабудове, як аб гэтым нярэдка даводзіцца чуць. У працэсы абнаўлення не былі ўцягнуты шырокія слаі працоўных. Выпрацоўка стратэгіі і тактыкі перабудовы аказалася ў руках вузкага кола асоб, не маючых ні дастатковай кампетэнтнасці, ні глыбіні ведання жыцця, ні ўмення прадбачыць эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя вынікі прапануемых мер. Адсюль і бясконцыя шарахванні з крайнасці ў крайнасць, і непаслядоўнасць, і недакладнасць у вызначэнні прыярытэтаў, і неапраўданая паспешлівасць або марудлівасць.

Так, перабудова дала магчымасць адчуць смак свабоды, дэмакратыі і галоснасці. Сёння кожнаму разважнаму чалавеку ясна, што вяртання да мінулага быць не можа. Але не ўсё, што прыйшло ў наша жыццё, можна ўзяць у будучае. Многае не прымаецца людзьмі.

І калі на старонках нават такіх салідных газет, як «Правда», «Известия», не гаворачы ужо аб мясцовых, гучаць гнеўныя абвінавачванні ў адрас «кансерватараў», «усялякай застойнай публікі», асабліва «партапаратчыкаў» за тое, што яны, маўляў, цягнуць назад да мінулага, міжволі становіцца да слёз шкада аўтараў гэтых прымітываў. У іх ліку днямі на старонках адной з газет убачыў і свайго знаёмага. Нібыта і чалавек ён думаючы, сур'ёзны — дрэннага слова пра яго не скажаш. А вось душой аказаўся драбнаваты, мітусіцца, падладжваецца, каб заслужыць прыхільнасць уплывовых асоб. На жаль, такіх прыстасаванцаў апошнім часам развялося нямала. Некаторыя з іх гатовы на любую подласць. Але радуе тое, што прыстойных людзей усё ж больш.

Пакуль перабудова не апраўдала надзей народа. Ён стаў жыць нават горш, чым раней. Непамерны рост цэн на тавары і паслугі ўвергнуў насельніцтва ў новае засмучэнне, парадзіў востры недавер да органаў улады, да кампартыі, што выкарысталі нашы ідэйныя праціўнікі. З эканамічных цяжкасцей яны спрытна зрабілі інструмент адкрытай барацьбы за ўладу.

Жорсткае процістаянне палітычных сіл канчаткова разарае эканоміку, яшчэ больш падрывае дысцыпліну і адказнасць. Калі ўсё пакінуць так, як ёсць, то трагічная развязка непазбежная. Нарастае напружанасць і ў Беларусі, асабліва ў Мінску. Такое не павінна працягвацца. Дзе ж выйсце?

Людзі павінны сказаць сваё рашучае «не» і заявіць, што яны больш не могуць быць заложнікамі палітычных гульняў, барацьбы за ўладу. За гэта ім прыходзіцца разлічвацца сваім дабрабытам. Вялікі ж рост цэн на харчаванне, тавары і паслугі таксама з'явіўся вынікам развалу эканомікі, распаду народнагаспадарчых сувязей, анархіі і разгільдзяйства. Усе партыі і грамадска-палітычныя рухі, і ў першую чаргу БНФ, яго лідэры, павінны спыніць нагнятанне страсцей і праявіць адказнасць за цяперашняе і будучае нашага народа.

**Нягледзячы на штодзённае ўзмацненне нападак,** ачарненне і абразы, якія перарастаюць у маральны тэрор, Кампартыя Беларусі ніколі не давала падстаў для канфрантацыі. Такіх фактаў няма, вядома, калі іх не стварыць наўмысна. Асабліва пасля XXXI з'езда КПБ мы заўсёды стрымана і карэктна ставіліся да дзеянняў апазіцыі, хоць яна нярэдка пераступала ўсе межы. У вачах людзей нас нават спрабавалі паказаць злачынцамі і бандытамі. Такія метады барацьбы не толькі амаральныя, але і бесчалавечныя.

З поўнай падставай можна сказаць, што ЦК КПБ свята прытрымліваўся і прытрымліваецца прынцыпаў, выпрацаваных сваім з'ездам. Але гэта не ацвярозіла сілы, якія процістаяць Кампартыі Беларусі. Галоўная віна, якая інкрымінуецца камуністам, заключаецца ў тым, што яны адстойваюць сацыялістычны выбар, хочуць яго зрабіць патрэбным людзям. Вось за гэта і раяць паручніку Галіцыну раздаць патроны.

І гэта не выпадкова. Праграмы ж нашых апанентаў часцей за ўсё не адлюстроўваюць карэнных інтарэсаў людзей працы, не ўтрымліваюць канструктыўных шляхоў пераадолення цяжкасцей. Нашы праціўнікі аб'ядноўваюцца на антысацыялістычнай платформе для дасягнення сваёй галоўнай мэты — барацьбы за ўладу, прычым далёка не канстытуцыйнымі метадамі. У атмасферы сацыяльнай напружанасці яны імкнуцца любымі сродкамі дыскрэдытаваць ідэі сацыялізму. У краіне ідзе ўжо не проста проціборства, а фарсіруецца развал Саюза, канстытуцыйнага ладу. На змену процістаянню палітычнаму прыходзіць процістаянне грамадзянскае.

Абстаноўка ў краіне дала нямала повадаў для народнай незадаволенасці. Красавік прынёс бурныя падзеі і ў Беларусь. Забастовачная хваля адлюстравала пратэст рабочага класа супраць рэзкага пагаршэння жыцця чалавека працы. Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі адразу выказаў свае адносіны да непамернага росту розмічных цэн і заявіў аб падтрымцы эканамічных патрабаванняў працоўных калектываў. Абстаноўку, якая склалася, добра разумелі і ва ўрадзе, а там нямала камуністаў. Яны дзейнічалі узгоднена і паслядоўна, што дазволіла прыняць неабходныя рашэнні па матэрыяльнай падтрымцы насельніцтва, змякчэнню цэнавага ўдару.

Кампартыя Беларусі не абыякавая да людскога гора і радасцей. Мы будуем сваю работу так, каб сацыяльная абароненасць людзей працы стала галоўным у нашых справах. Гэта, як вы самі разумееце, нялёгкі шлях, і тут многае яшчэ наперадзе.

Але на старонках некаторых рэспубліканскіх і цэнтральных газет ідзе свядомае скажэнне нашай палітыкі, нават ёсць спробы асобных аўтараў пераканаць чытачоў у тым, што інтарэсы рабочага класа і яго авангарда не супадаюць, што ў ЦК няма ніякай пазіцыі. Усё гэта няпраўда. Тут адчуваецца сцэнарый і накіроўваючая рука апазіцыі. Той, хто сумняваецца ў сказаным, няхай успомніць тэлеперадачы з удзелам кіраўнікоў КПБ, перачытае газеты тых дзён, матэрыялы Бюро і апошняга пленума ЦК КПБ, прынятыя на ім Заяву і Зварот да народа Беларусі. Дзіўная логіка: калі хочуць абвінаваціць партыю ў нечым, гавораць, што ў кіруючых органах краіны і рэспублікі большасць камуністаў. Калі ж па ініцыятыве партыі робіцца нешта добрае, то пра камуністаў замоўчваюць.

Трэба сказаць і тое, што, як у першыя красавіцкія дні, так і цяпер, ЦК Кампартыі выступае супраць спроб навяўленых «дэмакратаў» выкарыстаць рабочы рух у якасці разменнай манеты для задавальнення сваіх эгаістычных палітычных мэт. Нягледзячы ні на што, мы будзем паслядоўна прытрымлівацца такой пазіцыі і праводзіць яе ў жыццё.

**Тыя, хто пастаянна сочыць** за сродкамі масавай інфармацыі, не мог не звярнуць увагі на рознага роду спекуляцыі вакол справядлівых і абгрунтаваных патрабаванняў аб неабходнасці ўстанаўлення канстытуцыйнага парадку, ліквідацыі анархіі і беззаконня. Таго, хто так ставіць пытанне, абвінавачваюць ва ўсіх грахах, аж да замаху на дэмакратыю і галоснасць. Ім прышываюць ярлыкі экстрэмістаў і рэакцыянераў. Адным словам, усё ставіцца з ног на галаву.

У цэнтры такой увагі аказаўся і я. Днямі ў адной з публікацый у «Народнай газеце» Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч — імя яго добра вядома чытачам — рэкамендуе мне нават выступіць з пакаяннем. Скажу шчыра, не хацеў бы ўступаць цяпер з ім у палеміку з такой нагоды. Пры поўным несупадзенні палітычных поглядаў, несупадзенні некаторых ацэнак таго, што адбываецца ў грамадстве, заўсёды лічыў яго асобай, здольнай кіравацца разумным сэнсам, валодаючай магчымасцю прыходзіць да кансенсусу. Не страціў я гэтай надзеі і цяпер. Відаць, у даным выпадку палітычныя страсці пераважылі ўсё астатняе.

Але пакінуць гэта без адказу не магу нават чыста па-чалавечы. Уся мая віна перад людзьмі заключаецца толькі ў тым, што я сказаў праўду аб становішчы ў краіне. Не стаў хітрыць і выкручвацца, як гэта робяць некаторыя. Хоць добра разумеў, што знойдуцца і такія, якія ў пэўных мэтах паспрабуюць сказіць сказанае мной, паказаць усё ў выгадным для сябе свеце. Думаю, што палітык, як ніхто іншы, павінен быць сумленным і праўдзівым перад людзьмі, чаго б гэта ні каштавала. Яму не да твару бясконца «вібрыраваць», быць бесхрыбетным чалавекам, А такіх сёння нямала. І асабліва балюча, калі іх сустракаеш сярод таварышаў па партыі, часцей за ўсё былых. У наш час не проста захаваць чалавечую годнасць, але як жа можна жыць без яе?

У краіне павялічваецца колькасць месц, дзе льецца кроў, гінуць людзі, растуць патокі бежанцаў. Але там і асобы рэжым нічога змяніць не можа. І гэта адбываецца таму, што своечасова аб'ектыўна не ацанілі сітуацыю, не спынілі антынародныя, антызаконныя дзеянні.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# «КАРАЛІ» І КАПУСТА

Быў час, і зусім нядаўні, калі прыгарадны саўгас-аграфірма «Азёрны» ўваходзіў у Мінскі гараграпром. Але аргументы, якімі кіраваліся ў час чарговай рэарганізацыі сельскагаспадарчых структур, праверкі жыццём не вытрымалі. Калі даўгі пераваліл за 2 мільёны рублёў, быў узяты «развод», і саўгас-аграфірма зноў стаў проста саўгасам. Што датычыць назвы, то рабочыя, скажам прама, не вельмі перажывалі страту імпартнага слова «фірма». Пражывём, гаварылі, і ў савецкім саўгасе, былі б толькі малако і мяса, агуркі і памідоры (гаспадарка вырошчвае агародніну). А вось таму, што разам з «фірмай» узялі і палавіну даўгоў, радаваліся моцна: рынак—не цётка!

Ну, а як справы з агуркамі ды памідорамі? Убачыць іх гараджанін на сваім стале ці не? Дырэктар саўгаса А. І. Казлоў, энергічны і думаючы спецыяліст, настроены аптымістычна:

— Дзяржаўны заказ—7.100 тон агародніны — мы выканаем. Але наш лёс у многім залежыць ад таго, як спрацуюць самі гараджане. Мы заключылі дагаворы з 21 прадпрыемствам Савецкага раёна г. Мінска на вырошчванне самых розных культур — капусты, кабачкоў, морквы, радыскі, кропу, часнаку, цыбулі. Напрыклад, завод імя Арджанікідзе даглядае 40 гектараў капусты. Па ўмовах дагавора саўгас плаціць за кожную яе тону 40 рублёў. Дзесяць працэнтаў сабранай прадукцыі гаспадарка атаварвае натурай. Ну і зразумела, у першую чаргу выконвае заяўкі на агародніну рабочых прадпрадпрыемстваў-шэфаў.

М-да... Значыць, не паспрабуем мы з вамі, дарагі чытач, прадукцыі саўгаса. Прыйдзецца карміцца з Камароўскага рынку.

— А там мы адкрылі два кіёскі, дзе кожны можа купіць зяленіва, агуркі, памідоры па сезонных цэнах.

— І якія яны зараз?

— Агуркі—3 рублі, памідоры—10.

У дужках заўважым: прабіцца да прылаўкаў мы наўрад ці зможам—перакупшчыкі акружаюць кіёскі такім шчыльным кальцом, што нам з вамі туды дарога закрыта. Вярнуўшыся ў Мінск, мы пабывалі на Камароўцы і пераканаліся ў гэтым. Тут ёсць, нам здаецца, поле дзейнасці і для праваахоўных органаў. Але міліцыя памідорамі народ не накорміць, галоўнае слова—за вытворцам.

Зараз саўгас мае 6 гектараў цяпліц. Быццам бы і нямала, а ўсё ж не дае спакою адна думка. Пасля павышэння рознічных цэн, самай выгаднай культурай, як сказалі ў саўгасе, стала капуста. На роўным месцы ўзнікла новая праблема: 30 капеек за кілаграм замест ранейшых 8 могуць выцесніць з вытворчасці тыя ж вельмі працаёмкія агуркі і памідоры. «Каралі» нашай эканомікі, якія бралі новыя цэны са столі, дасыта накормяць такім чынам народ капустай.

Сяляне хутка падлічылі: за лета можна атрымаць добры прыбытак, а таму ахвотна бяруцца вырошчваць сем'ямі гектар і больш гэтай культуры.

Адна надзея—як і ўсё ў гэтым жыцці, практыка пераважыць любыя кабінетныя выкладкі. Яна і расставіць у рэшце рэшт кропкі: адрэгулюе цэны ў адпаведнасці з затратамі.

Вось чаму кіраўніцтва саўгаса з задавальненнем прыняло прапанову малога прадпрыемства «Святаслаў» з Ленінграда аб сумесным будаўніцтве гектара цяпліц. На гэтыя мэты «Святаслаў» выдаткаваў 1 мільён рублёў. Ну, а які ўклад гаспадаркі? Яна дае зямлю.

Мы не хаваем здзіўлення:

— Дык гэта ж атрымліваецца задарма!

Дырэктар саўгаса Адам Іванавіч Казлоў з нейкай горыччу адказвае:

— Вось таму мы і бедныя, што зямлю ні ў грош не ставілі. Пры падпісанні дагавора нашы спецыялісты зыходзілі з таго, што 1 гектар зямлі каштуе 600 тысяч рублёў. Гэта і ёсць доля саўгаса ў будаўніцтва новай цяпліцы.

Дарэчы, саўгас з тым жа малым прадпрыемствам «Святаслаў» падпісаў пагадненне аб будаўніцтве спартыўна - аздараўленчага комплексу, дзе размесцяцца сталовая, бар, сауна, плавальны басейн, гразелячэбніца, гасцініца. Уклад гаспадаркі — 2 гектары зямлі і кошт праектнай дакументацыі, «Святаслава»—5 мільёнаў рублёў.

Размаўляеш з людзьмі—і душа радуецца! Што робіць з імі рынак! Вучыць думаць, лічыць, прымаць рашэнні, несці адказнасць. Няўжо гэта наш затурканы старшынёўскі корпус, які і кроку не мог ступіць без ўказання «зверху»? Ён, родны. Але людзі іншыя. Яны ўжо не хаваюцца ў хмызняку ні ад начальства, ні ад карэспандэнтаў, ні ад сваіх аднавяскоўцаў.

У саўгасе «Азёрны» нам расказалі такую быль. Прыехаў нейкі аграпромаўскі чын і павялі яго на плантацыю жэньшэню. Можа пахваліць за ініцыятыву, бо задумала кіраўніцтва саўгаса разам з аптэчным ведамствам стварыць яшчэ і малое прадпрыемства па вырошчванню іншых лекавых траў. Хацелі па старой звычцы падстрахавацца. Пахадзіў ён змрочна вакол плантацый і сказаў скептычна толькі адно слова: «ну-ну». Суправаджаючыя зрабілі для сябе такі пераклад: «Расперазаліся тут, бізуна на вас няма».

А яно і добра, што няма. Затое, можа, хоць капуста будзе.

**М. МІХАЕВІЧ.**

**На здымках:** дырэктар саўгаса **А. І. Казлоў** з майстрамі па вырошчванню агародніны; цяплічніца **Т. П. Фрол.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

**Многія палітолагі і сацыёлагі прагназіруюць, што ніводзін з кандыдатаў у прэзідэнты Расіі не зможа адразу набраць больш 50 працэнтаў галасоў і будзе другі тур выбараў, у які, што найбольш верагодна, выйдуць Б. Ельцын і В. Бакацін.**

## *Вадзім БАКАЦІН:*

# „Яшчэ не вечар..."

Нядаўняя прэс-канферэнцыя ў Маскве члена Савета Бяспекі Вадзіма Бакаціна пачалася з таго, што ён зачытаў сваю заяву пры рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты. Вось ўрыўкі з яе: «Ствараемая прэзідэнцкая ўлада Расіі, павінна разарваць заганнае кола паўмер і таптання на месцы, забяспечыць бяспеку грамадзянам Расіі. Не можа стаяць дом, расколаты надвое, не выжыве краіна, дзе людзі ідуць сценка на сценку. На аснове згоды і палітыкі разумнага сэнсу мы павінны аб'яднаць стомленых людзей вакол агульнанацыянальнай ідэі адраджэння народаў Расіі і ўсёй краіны, стварыць новае грамадства свабоднай эканомікі, якое забяспечвае ўмовы для нармальнага жыцця, рэалізацыі неад'емных канстытуцыйных правоў кожнага чалавека. Я бачу мэту прэзідэнцкай улады ў тым, каб вызваліць Расію са шкарлупіння адміраючых структур, дапамагчы людзям перажыць цяжкасці пераходнага перыяду, быць зарукай бяспекі грамадзян і краіны. Яшчэ не вечар, і лёс Расіі ў руках яе народа».

В. Бакацін адразу заявіў, што не будзе весці барацьбу супраць некага асабіста. Сёння ў краіне катастрафічны стан. Ён бачыць тры прычыны: крайне неэфектыўная сістэма арганізацыі грамадства і эканомікі, страта мэты развіцця, памылкі суб'ектыўнага плана. Калі грамадства і эканоміка пераходзяць у новы якасны стан, то ва ўсе часы гэта было доўгім перыядам няўстойлівай раўнавагі. Сёння раздвоенасць у грамадстве—гэта сума раздвоенасцей кожнага чалавека. А нам хочацца ўсяго і адразу.

У праграме Бакаціна сем асноўных прынцыпаў.

— Дзяржава перш за ўсё павінна ўдзяляць асаблівую ўвагу таму, каб самой не праяўляць насілля і раздражнёнасці.

— Галоўны прынцып—прынцып згоды. Лепш траціць час на пошукі кампрамісу, чым губляць яго ў бясплённым кіраванні. Але згода не павінна быць сляпой, неабходна, каб яна засноўвалася на сумленнасці, адкрытасці. Улада павінна быць адкрытай.

— Пераемнасць улады. Не трэба, каб кожная новая мятла мяла па-новаму.

— Пры захоўванні роўнага канстытуцыйнага права рэспублік усведамленне і рэалізацыя асаблівай адказнасці Расіі як гістарычнага збіральніка Саюза.

— Цэласнасць Расійскай Федэрацыі як суверэннай дзяржавы пры забеспячэнні адзіных умоў захавання нацыянальнай самабытнасці ўсіх народаў.

— Стрыжань палітыкі—чалавек, абарона яго правоў.

— Умацаванне структур улады з апорай на дэмакратыю і прафесіяналізм.

Але цяпер важней за тузін праграм—праблема выжывання.

Іерархія першачарговых спраў Бакаціну бачыцца наступнай.

Пазбегнуць гіперінфляцыі шляхам стварэння ўмоў для малой прыватызацыі.

Аддаць рэальны прыярытэт сялянству, якое абражаюць адны размовы аб дапамозе. Не трэба дапамагаць селяніну— трэба даць яму магчымасць працаваць. Не варта аддаваць перавагу нейкаму аднаму спосабу вытворчасці—таму не трэба разганяць калгасы сілком. Зямлю аддаць у вечнае карыстанне ўсім, хто жадае і ўмее яе абрабляць. Не патрэбны марныя ідэалагічныя спрэчкі— прадаваць зямлю або не. Неабходна проста стымуляваць доўгатэрміновую арэнду.

Нават цаной зніжэння агульнага ўзроўню жыцця ўзняць комплекс выхавання і адукацыі, аддаць яму абсалютны прыярытэт ва ўсім. Інакш грамадства асуджана на дэградацыю, на адкідванне на абочыну прагрэсу.

Не спяшацца з прыватызацыяй жылля, гэта нічога не дасць. Цяпер гірай на нашай шыі вісяць прамысловыя будоўлі. Пераарыентацыя на жыллёвае будаўніцтва і пераважна катэджы за кошт саміх жыльцоў. Так можна зрабіць рывок за 4—5 гадоў.

Навесці парадак у знешнеэканамічных сувязях, валютных аперацыях, дзе чорт ведае што робіцца. Курс —на адкрытую эканоміку.

Правесці экспертызу ўсіх праграм пераходу да рынку. Немагчыма пабудаваць рыначныя адносіны камандна-адміністрацыйнымі метадамі. Не абавязкова бегчы ад дзяржаўнай уласнасці, Тэтчэр і то не бегла. Усё бясплатна нельга аддаць— гэта глупства.

Паслядоўна скарачаць расходы на ваенна - прамысловы комплекс (прынцып разумнай дастатковасці), але ўзмацніць клопаты аб ваеннаслужачых.

Умацаваць праваахоўную сістэму.

Нічога не сказаў Бакацін пра навуку, культуру, экалогію. На яго думку, усім гэтым трэба займацца, але сродкі дасць толькі моцная эканоміка.

**— Чаму ўступілі ў барацьбу?**

— Шмат разоў гаварыў, што не буду. Але ў цяперашняй рабоце сябе не зусім знайшоў. А тут адчуваю, што магу быць карысным.

**— Якімі бачацца адносіны Расіі з цэнтрам?**

— Цэнтр неабходны ў любой сістэме. Законы развіцця вядуць да цэнтра. Перакананы, што Савецкі Саюз ёсць і будзе неабходным. Саюз — прадукт згоды рэспублік. Любая барацьба менш прадуктыўная, чым супрацоўніцтва.

**— Як ставіцеся да патрабаванняў нацыяналізацыі ўласнасці КПСС?**

— Гэта грабеж сярод белага дня. Партыйная ўласнасць—гэта не ўласнасць дзяржавы. Гэта незаконнае патрабаванне.

**— Пытанне члену Савета Бяспекі: з чаго складаецца бяспека краіны?**

— Калі гаварыць пра палітычную бяспеку—з дасягнення палітычнай раўнавагі, але не шляхам насілля, адсячэння іншадумства.

**— Ёсць версія, што ствараецца новая партыя вакол Якаўлева, Шэварднадзе, Бакаціна?**

— КПСС трэба было трансфармавацца ў дзве дружалюбныя партыі—камуністычную і сацыял - дэмакратычную. Гэта магчымасць была ўпушчана, лічылася крамолай — маўляў, будзе расколата партыя. Але яна ўжо расколата. А ўвогуле новую партыю ствараць не трэба.

**— Ці атрымалі Вы ў перадвыбарнай барацьбе пажаданне ў добры шлях ад Гарбачова?**

— Так, атрымаў, я раіўся з ім, я не хацеў бы пашкодзіць згодзе паміж Гарбачовым і Ельцыным. Хоць вылучэнне маё ніхто не правакаваў.

**— Ваша пазіцыя па Нагорнаму Карабаху?**

— Ніхто не вырашыць гэту праблему, пакуль тыя, хто жыве там, не захочуць гэта зрабіць. У Грузіі іншае. Канфлікт там, упэўнены, будзе вырашаны мірнымі сродкамі. Не веру, што Грузія пойдзе з Саюза!

**— На якія палітычныя сілы Вы апіраецеся?**

— Мне няма на каго апірацца. КП РСФСР — за Рыжкова, «Дэмрасія» — за Ельцына. Буду змагацца без палітычных сіл.

**— Ці выйдзеце Вы з партыі, калі станеце Прэзідэнтам?**

— Па закону абавязаны прыпыніць членства ў партыі. Хоць не ўяўляю як гэта — прыпыніць...

**— Ваш кандыдат у віцэ-прэзідэнты Абдулаціпаў—адзін з аўтараў заявы супраць Ельцына. Чаму Вы выбралі ўсё ж яго?**

— Любы чалавек мае права выказаць сваю думку. Абдулаціпава многія паважаюць.

**— 17-ы год некаторыя называюць памылкай, як і сацыялістычны выбар...**

— Не лічу магчымым заднім чыслом быць разумным і судзіць гісторыю. Любы народ павінен ганарыцца сваёй гісторыяй. 17-ы год—гэта вялікае дасягненне. Іншая справа — той шлях развіцця, па якім мы пайшлі. Ён паказаў сваю неэфектыўнасць у эканоміцы, але не ў ідэалогіі. Хіба мы былі супраць дэмакратыі? Неэфектыўная эканоміка, заснаваная на татальным абагульненні, не дала магчымасці пабудаваць грамадства сацыяльнай справядлівасці.

**Ул. НАРКЕВІЧ.**

# КУДЫ ГЛЯДЗІЦЬ МІЛІЦЫЯ...

## Інтэрв'ю міністра ўнутраных спраў БССР У. Д. Ягорава Беларускаму тэлеграфнаму агенцтву

**— Уладзімір Дзям'янавіч, колькі жывём, столькі чуем — «куды глядзіць міліцыя?». Варта толькі чаму-небудзь здарыцца, тым больш у наш неспакойны час, калі многа гавораць і аб разгуле злачыннасці, і аб слабасці, пасіўнасці міліцыі... Не буду нават спрабаваць пералічыць усе нараканні ў адрас праваахоўных органаў, упэўнены, яны вам вядомыя нават лепш, чым камунебудзь. А як бы Вы і вашы калегі адказалі на пытанне «Куды глядзіць міліцыя?».**

— Праблемы правапарадку хвалявалі і будуць хваляваць грамадскасць. Гэта зусім натуральна, бо размова ідзе аб асабістай і маёмаснай бяспецы і недатыкальнасці людзей. І размову на гэту тэму я хачу пачаць з таго, што ў апошні час сапраўды многае зроблена, каб органы ўнутраных спраў з большай эфектыўнасцю выконвалі свае абавязкі: і тэхнікі стала больш, і зарплата вырасла, і колькасць асабовага саставу павялічана. Няхай гэта яшчэ не адпавядае аптымальнаму ўзроўню, але ўсё-такі... Мы таксама зыходзім з таго, што больш узяць няма адкуль, таму ўдзячныя парламенту і ўраду рэспублікі за разуменне нашых цяжкасцей і імкненне дапамагчы нам нават ва ўмовах абмежаванасці рэсурсаў.

Хачу падкрэсліць, што ў прававых адносінах працаваць нам стала некалькі лягчэй. Хоць і марудна, але ўсё ж удасканальваецца заканадаўства і паступова прыводзіцца ў адпаведнасць з рэаліямі сённяшняга дня, а па некаторых момантах — і заўтрашняга. Не магу не ўпамянуць беларускі Закон «Аб міліцыі». Гэта першы ў нашай гісторыі дакумент, які рэгламентуе дзейнасць органаў унутраных спраў. І не толькі ў прававым, але і ў сацыяльным плане.

Для нас вельмі важна і тое, што ў грамадстве мяняюцца адносіны да міліцыі, яе сапраўднай ролі. Людзі, нарэшце, сталі бачыць у ёй сапраўдную абаронцу сваіх інтарэсаў, больш ёй давяраць, лепш яе разумець, я маю на ўвазе перш за ўсё нашы цяжкасці. У такой абстаноўцы асабовы састаў адчувае сябе больш упэўнена, старанна нясе службу, што прыносіць неабходныя грамадству вынікі.

Нам удалося скараціць тэмпы росту злачыннасці. Знізілася колькасць забойстваў, цяжкіх і менш цяжкіх цялесных пашкоджанняў, разбояў, згвалтаванняў, угонаў транспарту, крадзяжоў. Станоўчыя тэндэнцыі адзначаюцца па ўсім спектры небяспечных злачынстваў. Некалькі скарацілася колькасць вулічных злачынстваў, чаго ў цяперашняй абстаноўцы дабіцца, скажам прама, не проста. Ёсць некаторыя дасягненні і ў барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, а гэта тая праблема, да якой прыкавана асабліва пільная ўвага грамадскасці. У гэтым годзе мы канфіскавалі ў тры разы больш выкрадзенай маёмасці, грошай, каштоўнасцей, чым у мінулым.

Вядома, мы ні ў якім разе не расцэньваем абстаноўку як здавальняючую. Наадварот, мы выразна асэнсоўваем усю напружанасць сітуацыі, якая ўскладняецца эканамічнымі, сацыяльнымі, палітычнымі цяжкасцямі і нават узрушэннямі. Асабовы састаў органаў унутраных спраў працуе з вялікай нагрузкай, ва ўмовах рэзка ўзрослага процідзеяння з боку крымінагенных элементаў, аж да ўзброенага.

Так што вось куды глядзіць міліцыя: туды, дзе парушаецца парадак, закон.

**— Вясной гэтага года ў вас паявіліся новыя клопаты, якіх беларуская міліцыя раней не ведала. Размова ідзе аб неабходнасці забяспечыць парадак у час мітынгаў, шэсцяў, іншых акцый пратэсту.**

— Нельга сказаць, што такой работай мы займаліся толькі ў гэтым годзе. Ужо ў мінулым нам прыйшлося значныя сілы адцягнуць на забеспячэнне парадку ў час правядзення акцый пратэсту. А іх было нямала. За год і чатыры месяцы — 247. У іх прыняло ўдзел каля паўмільёна чалавек. І не важна, дазволены мітынг ці не, а нам парадак забяспечыць трэба. Дарэчы, не магу не заўважыць, што ў нас сёння прама-такі мода на ігнараванне закона. У тым ліку і пры правядзенні такіх мерапрыемстваў, як мітынгі. У іншых жа краінах, на якія прынята спасылацца як на апору свабоды і дэмакратыі, такія выпадкі выклікаюць жорсткія карныя меры. Закон ёсць закон.

Дык вось, вяртаючыся да неабходнасці забяспечыць парадак у час акцый пратэсту, адважуся сцвярджаць, што мы гэты парадак забяспечылі. І не магу прыняць папрокаў у нерашучасці, марудлівасці ў спыненні па сутнасці незаконных масавых мерапрыемстваў, якія праходзілі, напрыклад, у красавіку ў Мінску, Оршы, іншых гарадах рэспублікі. З нашага боку ніякай сузіральнасці, як гэта сёй-той спрабуе сцвярджаць, не было.

Зусім ясна, што пратэст выкліканы недастатковасцю мер па сацыяльнай абароне насельніцтва ва ўмовах пераходу да рыначных адносін. У прыватнасці, ва ўмовах рэформы цэн. Прэтэнзіі людзей у многім справядлівыя, нездарма ў акцыях пратэсту прыняло ўдзел больш за 300 тысяч чалавек. Думаю, што адыграла сваю ролю няўменне многіх кіраўнікоў працоўных калектываў прыняць уласныя меры па змякчэнню шоку, выкліканага павышэннем цэн, своечасова праінфармаваць людзей аб мерах, якія прымае ўрад. Не сакрэт, што гэта выкарысталі тыя, каму выгадна было вывесці людзей на вуліцу. Пратэст рабочых спачатку быў стыхійным. Але хутка да іх далучыліся прадстаўнікі палітычных партый і плыней, і мітынгі атрымалі ярка выражаную палітычную афарбоўку. Выкарыстоўваліся самыя розныя сродкі для таго, каб распаліць страсці. Напрыклад, адзін з прамоўцаў на мітынгу ў Мінску заявіў, што ён быццам бы бачыў на кальцавой дарозе сталіцы танкі і дэсантнікаў. Не трэба тлумачыць, што такая заява магла стаць іскрай, ад якой успыхвае пажар.

Мая думка такая: калі ў людзей ёсць пытанні, трэба сабрацца і абмеркаваць іх, калі ёсць пытанні да Вярхоўнага Савета і ўрада, трэба іх задаць. І выслухаць адказы. Абавязкова выслухаць. А хіба ж так было на справе? На жаль, на мітынгах часта ішла гульня ў адны вароты, дзе дзеянні тых, хто ўзяў на сябе ролю суддзяў, цяжка было прадказаць. Лічу, што ўсе пытанні можна вырашыць шляхам дыялога, няхай вострага, непрыемнага. Але абавязкова павінна быць паважлівасць да апанента, канструктыўнасць. Між іншым, гэта ўжо іншая тэма. Што ж датычыць міліцыі, то яна поўнасцю кантралявала сітуацыю. прымала самыя актыўныя меры.

**— Вы гаворыце, міліцыя кантралявала, прымала меры. Але ж у Оршы парадак усё ж быў сур'ёзна парушаны, справа дайшла да спынення руху на вельмі важнай для краіны і Еўропы чыгуначнай артэрыі...**

— Абстаноўка ў Оршы складвалася асабліва востра. На несанкцыяніраваны мітынг выйшла некалькі тысяч чалавек, якія блакіравалі затым чыгунку. Так, парушаны Указ аб арганізацыі і правядзенні мітынгаў, сходаў, дэманстрацый. Парушаны і Закон аб недапушчальнасці блакіравання транспартных камунікацый. Але я хачу сказаць і іншае. У горадзе ў нас было дастаткова сіл для таго, каб не дапусціць блакіравання і рассеяць прысутных, але няцяжка здагадацца, да чаго гэта магло прывесці. А лепш сказаць, да чаго гэта непазбежна прывяло б. Да ахвяр. Справа ў тым, што вакзал і плошча, на якой сабраліся мітынгуючыя, знаходзяцца паміж шматлікімі лініямі чыгуначных пуцей, і трапіць на гэту плошчу можна толькі па старым і вузкім пешаходным мосце. Ён перакінуты цераз пуці і мае толькі адзін ступеньчаты спуск да вакзала. Пры першай жа спробе адцясніць людзей праз гэты мост ён бы рухнуў. І тады прыйшлося б весці размову аб дзесятках ахвяр. Гэтак жа трагічна маглі скончыцца і іншыя формы прымянення сілы.

Ці апраўдана гэта нават на фоне эканамічных страт ад затрымкі паяздоў? Вядома ж, не. Таму кіраўніцтва МУС і начальнік Беларускага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце генерал міліцыі М. І. Чаргінец, які прадстаўляў яго ў Оршы, прынялі адзіна правільнае рашэнне: весці перагаворы са стачкомам. І яны вяліся. Было цяжка, складана, і ўсё ж удалося дасягнуць дагаворанасці, а тым самым пазбегнуць сутыкненняў, непрадказальных вынікаў. Не магу не сказаць і аб намаганнях народных дэпутатаў рэспублікі М. Слямнёва і Я. Глушкевіча. У той вострай сітуацыі яны змаглі знайсці словы, якія ў значнай меры садзейнічалі стабілізацыі абстаноўкі.

І раптам пасля той велізарнай работы, калі нервы былі напружаныя, як агаленыя правады, пасля прыняцця рашэнняў, якія былі прадыктаваны ўзважанасцю і сур'ёзным разлікам, робяцца абвінавачванні ў нерашучасці, у няўменні авалодаць сітуацыяй.

Дарэчы, дапускаю, што сёйтой дамагаўся іменна прымянення сілы з нашага боку, лічу, камусьці хацелася беспарадкаў, пагромаў, кровапраліцця. Але няхай ні ў каго не ўзнікае ілюзій наконт таго, быццам наша стрыманасць прадыктавана слабасцю. Паўтараю, органы ўнутраных спраў мелі ўсё неабходнае, каб проста не дапусціць вялікіх скапленняў людзей. Але мы бачылі сваю задачу не ў тым, каб прадэманстраваць сілу. Мы стараліся дзейнічаць з пазіцый разважнага сэнсу. Кантралявалі праходжанне калон па вуліцах, падтрымлівалі парадак у час мітынгаў. «Забіралі» п'яных. Былі і такія «пратэстанты», няцяжка ўявіць іх патрабаванні.

Нашы работнікі старанна дакументавалі ўсе проціпраўныя дзеянні ў час мітынгаў і шэсцяў. Яны належным чынам афармляюцца і перадаюцца ў суд. Наконт гэтага таксама не павінна быць сумненняў. У якасці прыкладу скажу, што прыцягнуты ўжо да адказнасці некалькі ваяжораў-падбухторшчыкаў з Брэста, Віцебска, Данецка і, натуральна, мінчан. Работнікамі Маскоўскага райаддзела ўнутраных спраў г. Мінска за парушэнне правіл знаходжання замежных грамадзян у СССР затрыманы грамадзяне Польшчы Е. Сальмановіч і Я. Халас, якія праявілі павышаную цікавасць да мітынгаў на сталічнай плошчы. Аб гэтым мы паведамілі генеральнаму консулу Рэспублікі Польшча ў Мінску і Міністэрству замежных спраў БССР для адпаведнага рэагавання.

Некаторыя справы парушальнікаў яшчэ разглядаюцца. Нашы супрацоўнікі разам з работнікамі пракуратуры вядуць па іх следства. Рашэнні будуць прыняты ў адпаведнасці з законам, падабаецца гэта каму ці не. А ўсякія размовы наконт дыктатуры, заціску дэмакратыі ў такіх выпадках лічу дэмагогіяй. Сапраўдная дэмакратыя немагчымая без дыктатуры закона, перад якім усе роўныя: і кіраўнікі розных рангаў, і лідэры партый, грамадскіх арганізацый, і работнікі праваахоўных органаў у тым ліку.

### *На тэму дня*

# «ВІРАЖЫ» НА ПРЫГАРАДНЫХ МАРШРУТАХ

**Паважаная рэдакцыя! Няма ў мяне больш сіл змагацца з бюракратамі. Некалькі разоў звяртаўся ад імя трох садаводчых кааператываў «Чыстыя пруды» ў Міністэрства транспарту БССР і ВА пасажырскага аўтамабільнага транспарту. Просьба наша — прыгарадны маршрут № 215 Мінск—в. Броўкі прадоўжыць да нас, гэта значыць на 3,5 кіламетра. Раней не было добрай дарогі, але ж цяпер яе адрамантавалі. У «Чыстых прудах» 400 участкаў. Шмат у нас ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў, пенсіянераў. Ім асабліва цяжка гэтулькі ісці пешшу да прыпынку «Броўкі». Але выконваючы абавязкі начальніка аб'яднання А. У. Мухін даслаў адпіску.**

**С. ЧАХОЛЬСКІ,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

г. Мінск.

З гэтым пісьмом еду ў вытворчае аб'яднанне «Мінскпасажыраўтатранс». Намеснік начальніка па эксплуатацыі А. Мухін спяшаецца ў тэрміновую камандзіроўку, і мне нічога не застаецца, як звярнуцца да начальніка аддзела эксплуатацыі Ф. Марчука.

Фёдар Міхайлавіч вокамгненна знаёміцца са зместам скаргі і тут жа выносіць рэзюме:

— Так, усё правільна. У мінулым годзе там была дрэнная дарога, і пусціць аўтобус не было магчымасці. А цяпер, калі яна ёсць, паедзем, паглядзім і прадоўжым маршрут — якая можа быць праблема... Якія яшчэ да мяне пытанні? І ён кідае выразны позірк у мой бок: таксама спяшаецца.

А тым часам у мяне напагатове пытанні, прытым нямала. У сувязі з рэзкім павышэннем кошту за праезд у аўтобусах людзі пішуць і звоняць у рэдакцыю, цікавяцца, нават патрабуюць даць адказ, як цяпер іх будуць вазіць, ці палепшыцца абслугоўванне? Асабліва непакояцца сельскія жыхары і так званыя дачнікі: нікому ж не навіна і не сакрэт, што прыгарадныя маршруты заўжды былі і, на жаль, па сённяшні дзень застаюцца самым «вузкім месцам» у аўтобусным руху.

— Людзей хоць неяк трэба вазіць — цяжка ўздыхае Ф. Марчук. І тлумачыць: — Але, зразумейце, нялёгкая гэта задача. А цяпер яна яшчэ больш ускладнілася...

Ускладнілася, як высвятляецца, таму, што ўзнікла вострая праблема з аўтатранспартам. Яго не хапае, каб нармальна вазіць людзей нават у сталіцы (а гэта, паводле слоў Ф. Марчука, галоўны клопат аб'яднання). Дык што тады гаварыць аб сельскіх маршрутах! Сапраўды, згодна з рашэннем Мінгарвыканкома ад 15 лістапада 1984 года, вытворчая аўтабаза горада на канец мінулага года павінна была складаць 1.500 аўтобусаў. Фактычная ж колькасць іх 1.317— адставанне дапушчана на 183 адзінкі. А гэта адчувальны недахват. І асноўная прычына ў тым, што замест пастаяннага павелічэння колькасці машын наглядаецца штогадовы рост іх недапаставак, перш за ўсё вялікай і павышанай змяшчальнасці. Калі ў 1988 годзе было недаатрымана да плана 9 аўтобусаў, то ў 1989 годзе—35, а ў 1990-м—91. Сёлета рухомы састаў аб'яднання наогул павялічыцца ўсяго на 7 машын.

А не паступаюць новыя — «старэе» ўвесь аўтапарк, нельга спісаць нават тыя, якія даўно выпрацавалі свой рэсурс. Напрыклад, на 1 сакавіка прабег 330 аўтобусаў перавысіў 550 тысяч кіламетраў, 104—700 тысяч, а 17 — больш як 800. Вынік такой статыстыкі відавочны: павялічваецца колькасць рамонтаў і прастояў, змяншаецца выхад машын на лінію. А гэта ўсё перш-наперш адчуваюць на сабе пасажыры— пагаршаюцца іх перавоз і абслугоўванне. І сёлета з-за такой складанай сітуацыі «Мінскпасажыраўтатранс» зменшыць у горадзе парк машын на 45 аўтобусаў, што выкліча далейшую ланцуговую рэакцыю — скарачэнне іх колькасці на маршрутах, некаторыя з якіх давядзецца проста закрыць.

Што і казаць, становішча ў нас, пасажыраў, незайздроснае, нават прыкрае: плаціць за праезд будзем удвая больш, а вазіць, абслугоўваць нас стануць і менш, і горш. Праўда, кіраўніцтва аб'яднання ў пачатку красавіка накіравала пісьмо старшыні Мінгарвыканкома А. Марынічу і міністру транспарту БССР У. Бародзічу, у якім выклала свае беды і праблемы. Аднак гэта пасланне перш за ўсё датычыць горада.

Ну а што рабіць сельскім жыхарам, асабліва прыгараднай зоны? Тым больш, што ў іх цяпер з'явілася вельмі многа дадатковых спадарожнікаў — гараджан, членаў шматлікіх садаводчых таварыстваў, якіх безліч створана і яшчэ ствараецца вакол Мінска. Як гэтай масе людзей, асабліва ў выхадныя дні, даехаць у свае вёскі, да сваіх садовых участкаў, а потым вярнуцца назад?

Скажам прама, складаная праблема. Але, прызнацца, гэта пытанне ў майго субяседніка выклікала даволі дзіўную рэакцыю:

— Ага, цяпер я разумею. Вы, як і ваш аўтар пісьма, хочаце прабіць аўтобус на сваю дачу...

Прыйшлося даказваць Ф. Марчуку, што яго сцвярджэнне, абвінавачванне ў нейкім шкурніцтве зусім беспадстаўнае, кінутае не па адрасу. Тут жа прапаную Фёдару Міхайлавічу разам пабываць у любую суботу ці нядзелю раніцай на прыгарадных аўтастанцыях, на аўтобусных прыпынках. У гэты час можна ўвачавідкі пераканацца, якія тут збіраюцца натоўпы пасажыраў, як яны штурмуюць аўтобусы, нарэшце, якімі салёнымі слоўцамі ўспамінаюць тых, па чыёй міласці зведваюць дарожныя пакуты. Мая прапанова застаецца без адказу і падтрымкі. Затое чую ад свайго апанента яшчэ больш дзіўнае:

— А чаго яны ўсе збіраюцца адначасова? Хто іх зможа адразу ўсіх перавезці?

Бачыце, вінаваты пасажыры, што і збіраюцца адначасова, і, да таго ж, усе хочуць ехаць.

Але давайце адкінем эмоцыі, недарэчныя папрокі і паразважаем на гэту актуальную і важную тэму спакойна, памяркоўна і з карысцю для нашай агульнай справы.

Спачатку прывяду некаторыя лічбы. Як і летась, у прыгараднай зоне будзе хадзіць 154 аўтобусы. Маршрутаў было 126, стане 129—на тры больш. Працягласць іх у мінулым годзе складала 3.742 кіламетры, сёлета — 3.784. Здавалася б, добра, хоць нейкі ды зрух да лепшага. Як бы не так! Аказваецца, колькасць рэйсаў на гэтых маршрутах з леташніх 2.032 зменшыцца да 1.992. Значыць, тыя ж аўтобусы будуць хадзіць радзей і адпаведна нагрузка на іх узрасце. Скажам, ужо цяпер з Вішнёўкі ці Паперні (напрамак добра мне знаёмы) у нядзелю пасля абеду, а тым больш вечарам даехаць у Мінск практычна нельга. Аўтобусы, якія ідуць з Жукаўкі, Мачаноў, Саламарэчча, так перагружаны, што міма ўсіх прыпынкаў праносяцца транзітам. Такое становішча і на іншых напрамках. Заўважце, гэта ўжо цяпер, вясной. А што будзе летам — у самы разгар і пік сезона адпачынку, масавых водпускаў. У аб'яднанні мяне супакоілі, што на гэты час па самых «гарачых» напрамках будуць дадаткова ўведзены сезонныя маршруты. Вядома, яны некалькі зменшаць напружанасць, але поўнасцю не вырашаць вострую праблему.

У мяне склалася і такое ўражанне: у «Мінскпасажыраўтатрансе» не вельмі хочуць нас вазіць, бо не асабліва ў гэтым зацікаўлены.

— А вы ведаеце, што ў мінулыя гады 70 працэнтаў прыгарадных маршрутаў былі стратнымі, — раптам заяўляе Фёдар Міхайлавіч.

Вось гэта навіна! Як жа так? Аўтобусы туды і назад ідуць бітком набітыя, на прыпынках застаецца шмат людзей, а маршруты стратныя. Парадокс! А прычына, як мне растлумачылі, у тым, што быў нізкі тарыф за праезд — 1,5 капейкі за кіламетр. Сёння, калі рэзка ўзраслі на ўсё цэны і расцэнкі, безумоўна, ён не адпавядае рэальным выдаткам. Але дзе гарантыя, што і пасля павышэння тарыфу тыя ж прыгарадныя маршруты зноў не акажуцца стратнымі? Справа ж у тым, што не ўся выручка за праезд трапляе ў касу аб'яднання. Нікому не сакрэт, што шафёры на прыгарадных маршрутах халтураць, нямала выручкі за білеты прысвойваюць, а ў справаздачах выводзяць мізэрныя сумы.

— І вы, пасажыры, удзельнічаеце ў гэтым крадзяжы і ашуканстве,— кідае папрок інжынер аддзела эксплуатацыі М. Міліцах.— Сама была сведкай, як жанчына пры выхадзе вярнула вадзіцелю свой білет. А за кожным аўтобусам замацаваць асобнага кантралёра ў нас няма магчымасці.

Але, на маю думку, галоўная прычына ў недасканалай арганізацыі работы аўтобусаў, у непрадуманым раскладзе іх руху. У той час як адны перапоўнены, другія імчаць літаральна паражняком. Адзін з такіх, напрыклад, ходзіць у в. Зацень. Вядома, будзе ён стратным, бо возіць лічаных пасажыраў. Аднак курсіруе так не першы год па загаду былога міністэрства аўтамабільнага транспарту. Зразумела, ёсць такія «паражнякі» і на іншых маршрутах. Скажыце, калі яны тут усё ж патрэбны, то чаму іх не прадоўжыць, не злучыць з іншымі населенымі пунктамі? Адным словам, зрабіць так, каб і людзям добра, і аб'яднанню выгадна.

Або возьмем такое пытанне. Звычайна раніцай у суботу, нядзелю і святочныя дні тысячы гараджан накіроўваюцца на садовыя ўчасткі, да сваіх родзічаў у вёскі, хочуць паехаць у лес па ягады і грыбы ці проста адпачыць, правесці дзень на ўлонні прыроды. На аўтастанцыях і прыпынках збіраюцца вялікія натоўпы. А ў гэты самы час па гораду снуюць пустыя і паўпустыя «Ікарусы», прытым многія вялікай умяшчальнасці, якіх і без таго не хапае ў аб'яднанні. Хіба гэта правільна?

Аб дастаўцы на свае ўчасткі членаў садаводчых таварыстваў, зразумела, павінны клапаціцца іх праўленні, кіраўнікі. Напрыклад, у «Мінскпасажыраўтатрансе» я сустрэў старшыню садаводчага таварыства «Ягадка» У. Мароза.

— У нашым таварыстве ўсяго 68 участкаў,— гаворыць ён. — Але побач з нашым размясціліся яшчэ дзевяць. А ўвесь масіў вялікі — 1.100 участкаў. Так што аўтобус сюды вельмі патрэбны.

Усевалад Пятровіч узяў на сябе ўсе клопаты, каб зрабіць тут належную дарогу, заключыць дагавор на адкрыццё маршруту, вырашэнне іншых пытанняў.

Дапамагчы «Мінскпасажыраўтатрансу» ў перавозцы дачнікаў на іх участкі маглі б і буйныя прамысловыя прадпрыемствы, якія маюць свае аўтобусы. Некаторыя з іх менавіта так і робяць.

А вось, як зазначае Ф. Марчук, на трактарным заводзе, некаторых іншых буйных прадпрыемствах клапаціцца пра сваіх садаводаў не жадаюць.

Так ці іначай, а чалавек за свае грошы хоча мець гарантыю, што яго завязуць, куды яму трэба. А пакуль, на жаль, даводзіцца штурмаваць аўтобусы, «галасаваць» на прыпынках, з крыўдай і абурэннем назіраць бясконцыя «віражы» на прыгарадных маршрутах.

**І. БРАЛКА,**
**загадчык аддзела пісьмаў «Звязды».**

### *Служба-01*

# ПРЫЧЫНА ПАЖАРАЎ

**У 1990 годзе па рэспубліцы кожны чацвёрты пажар адбыўся па прычыне няспраўнасці электраправадоў і электрапрыбораў, а таксама з-за парушэнняў правіл іх эксплуатацыі. Страты ад такіх пажараў перавысілі 4,5 мільёна рублёў.**

На жаль, пажары па гэтай прычыне і сёлета не змяншаюцца. З пачатку года агнём знішчана каля тысячы будынкаў. Несвоечасовае абслугоўванне электраправадоў і прыбораў прыводзіць да непрадбачаных бед і ахвяр.

Не так даўно ў вёсцы Дужаўка Чавускага раёна ўзнік пажар у сельскай бальніцы, дзе размяшчаўся фельчарска-акушэрскі пункт і дзіцячы сад на 22 месцы. Агнём знішчаны дах будынка. На шчасце, пажар узнік увечары і ніхто не пацярпеў. Спецыялісты мяркуюць, што бяда адбылася з-за кароткага замыкання электраправодкі. А ў вёсцы Першай Валожынскага раёна ад кароткага замыкання ўзнік пажар у будынку дзіцячага сада калгаса імя К. Маркса. І тут агонь успыхнуў, калі нікога не было. Людзі не пацярпелі, аднак страты значныя.

Немалы ўрон ад пажару і на Гомельскай фабрыцы цацак. Прычына —кароткае замыканне электрарухавіка станка.

Цяпер, у пажаранебяспечны вясенне-летні перыяд у многіх месцах рэспублікі праводзіцца грамадскі агляд проціпажарнага стану аб'ектаў і жылых дамоў. Там, дзе гэта работа выконваецца якасна, пажары— рэдкасць.

**І. ПАЎЛІНСКІ,**
**інструктар Цэнтральнага савета Беларускага добраахвотнага пажарнага таварыства.**

### *У Дзяржкамстаце БССР*

# ГРОШЫ—ТАВАР...

Складаная сітуацыя на рынку спажывецкіх тавараў у значнай меры выклікана апераджальным ростам грашовых даходаў насельніцтва ў параўнанні з ростам паставак тавараў для продажу насельніцтву. Так, грашовыя даходы насельніцтва рэспублікі за 1990 г. у параўнанні з 1989 годам павялічыліся на 19,3 працэнта, у першым квартале г. г. — на 28, у красавіку — у 1,5 раза. Агульны прырост грашовых даходаў насельніцтва за 1990 год склаў 4 млрд. рублёў, а за чатыры месяцы гэтага года — 2,6 мільярда рублёў у параўнанні са студзенем — красавіком 1990 года.

Рост грашовых даходаў, парушэнне паставак тавараў з іншых рэспублік, недастатковая іх вытворчасць прывялі да таго, што, пачынаючы з другога паўгоддзя 1990 года, стаў рэзка нарастаць ажыятажны попыт, які ахапіў практычна ўсе віды тавараў. Асабліва ўзмацніўся гэты працэс у студзені — сакавіку 1991 года ў сувязі з чакаемай рэформай рознічных цэн. Так, калі аб'ём рознічнага тавараабароту за 1990 год павялічыўся на 3,2 млрд. рублёў, або на 20 працэнтаў, то ў студзені — сакавіку бягучага года ў параўнанні з першым кварталам мінулага — на 29,6 працэнта. Насельніцтвам рэспублікі пачалі закупляцца ў запас не толькі прамысловыя, але і харчовыя тавары.

Органамі дзяржаўнай статыстыкі вывучаны гэтыя пытанні ў 3,5 тысячы сем'яў рэспублікі, у тым ліку ў 1,9 тысячы сем'яў рабочых і служачых, у 1,5 тысячы сем'яў калгаснікаў і 105 сем'ях пенсіянераў.

Якімі былі запасы асобных прадуктаў харчавання на 1 красавіка г. г., і як яны змяніліся ў параўнанні з 1 красавіка 1990 г. у абследаваных сем'ях, відаць з наступных даных:

| | Рабочыя і служачыя | | Калгаснікі | | Пенсіянеры | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У сярэднім на сям'ю, кг | 1991 г. у % да 1990 г. | У сярэднім на сям'ю, кг | 1991 г. у % да 1990 г. | У сярэднім на сям'ю, кг | 1991 г. у % да 1990 г. |
| Мяса і мясапрадукты | 17,6 | 142 | 75,6 | 114 | 39,7 | 90 |
| Масла | 0,9 | 1.162 | 0,5 | 517 | 0,5 | 135 |
| Алей | 1,7 | 489 | 1,3 | 273 | 1,0 | 269 |
| Рыба і рыбапрадукты | 1,2 | 264 | 0,3 | 143 | 0,3 | 159 |
| Цукар | 11,0 | 125 | 12,4 | 95 | 7,5 | 104 |
| Мука | 16,5 | 237 | 92,0 | 118 | 57,1 | 157 |
| Крупы | 12,5 | 267 | 39,2 | 111 | 23,1 | 97 |
| Макаронныя вырабы | 2,6 | 458 | 3,6 | 194 | 2,4 | 250 |

Запасы, зробленыя насельніцтвам, забяспечылі б цяперашні ўзровень спажывання мукі на працягу 480 дзён, круп — 300 дзён, цукру — 100 дзён, мясных прадуктаў — 50 дзён, макаронных вырабаў — 75 дзён, масла — 20 дзён.

Рэформа рознічных цэн і ўвядзенне іх з 2 красавіка г. г., накопленыя ў многіх сем'ях запасы асобных відаў прадуктаў харчавання абумовілі некаторае зніжэнне пакупніцкага попыту насельніцтва.

У красавіку ў параўнанні з красавіком мінулага года знізіўся продаж насельніцтву мяса, каўбасных вырабаў, рыбы, масла, яек і іншых прадуктаў. У той жа час у аптовым гандлі і на прадпрыемствах запасы масла і каўбасных вырабаў павялічыліся ў 2,5 раза, мяса на 9 працэнтаў, сыру на 8 працэнтаў, рыбы на 7 працэнтаў.

**Г. ГАСЮК,**
**начальнік упраўлення сацыяльнай статыстыкі Дзяржкамстата БССР.**

(БЕЛТА).



Крутыя дарогі мотадрома не для тых, хто з баязлівага дзесятка. Героі гэтага фотаздымка, нягледзячы на свой юны ўзрост, адчуваюць сябе на такіх трасах гаспадарамі. Мінчане сямікласнік Грыша **МАНДРЫК** з СШ № 140 і трэцякласнік Толя **ШЫМАКОЎСКІ** з СШ № 54 мараць стаць класнымі мотагоншчыкамі. Іх першыя крокі, як лічаць трэнеры, дастаткова паспяховыя: нядаўна хлопцам было даручана адкрываць гарадское ваенна-спартыўнае свята.

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

# Лёс чэкіста

ГАРАЧЫМ ЛІПЕНЬСКІМ ДНЁМ 1933 года ў невялікай канферэнц-зале сталічнага аб'яднання «Маснархарч» сабраўся амаль увесь калектыў гэтай установы. У спякотным памяшканні людзей утрымлівала цікавасць да абавязковага толькі для камуністаў мерапрыемства. Як прачыталі супрацоўнікі ў вывешанай у фае аб'яве пра адкрыты партыйны сход ячэйкі ВКП(б), ён прысвячаўся праверцы (а фактычна чыстцы) членаў партыі. Спіс тых, хто падвяргаўся праверцы, адкрываў кіраўнік апарату «Маснархарча» Ян Каліксцавіч Ольскі (Кулікоўскі).

Сход пачаўся. Старшыня раённай праверачнай камісіі, вядомая рэвалюцыянерка Разалія Землячка, зачытала неабходныя па пратаколу такіх сходаў дакументы, якія тлумачылі парадак праверкі, правы ўдзельнікаў, а затым прапанавала пачаць абмеркаванне дзейнасці камуніста Ольскага.

— Няхай для пачатку раскажа сваю біяграфію, — пачулася з залы.

Мяркуючы па рэакцыі прысутных, гэта цікавіла многіх. І сапраўды, ужо амаль два гады Ян Каліксцавіч узначальвае сістэму грамадскага харчавання ў сталіцы, амаль з кожным падначаленым гутарыў асабіста, а вось пагаварыць задушэўна, паўспамінаць не такое ўжо далёкае мінулае неяк не даводзілася нават з блізкімі таварышамі.

Па запрашэнню Землячкі на невялікую трыбуну падняўся стройны, вышэй сярэдняга росту, гвардзейскай выпраўкі чалавек у ваенным, але без знакаў адрознення.

У зале ўсталявалася цішыня. Ольскі разгладзіў складкі на гімнасцёрцы, паспрабаваў прыгладзіць непаслухмяную шапку каштанавых валасоў і з хваляваннем пачаў гаварыць.

Перада мной ляжыць стэнаграма гэтага пасяджэння праверачнай камісіі. Аб чым толькі не пыталіся ў Яна Каліксцавіча — і аб узаемаадносінах з супрацоўнікамі, і аб колькасці створаных пад яго кіраўніцтвам сталовых на заводах і фабрыках сталіцы, і аб адносінах да апазіцыі ў партыі. Але што дзіўна — ніхто з удзельнікаў сходу не пацікавіўся прычынай пераходу Ольскага, вопытнага чэкіста, кіраўніка савецкай контрразведкі ў далёкую ад яго мінулай дзейнасці сферу грамадскага харчавання.

Канешне, не ўсе ведалі аб займаемай ім раней у АДПУ пасадзе. Але хутчэй за ўсё гіпнатычнае ўздзеянне аказала сказаная Ольскім апошняя фраза — «Па рашэнню Цэнтральнага Камітэта накіраваны для работы ў «Маснархарч». Што такое прадпісанне ЦК партыі, камуністу тлумачыць не трэба было.

Рашэнне ЦК... Толькі цяпер, у выніку карпатлівых пошукаў у архівах, стала вядома, як яно нарадзілася і хто персанальна выступаў ад імя кіруючага органа партыі. А тады нават у чэкісцкім асяроддзі, не гаворачы ўжо аб работніках «Маснархарч», мала хто ведаў аб'ектыўную і поўную інфармацыю аб тым, што адбылося ў Цэнтральным апараце АДПУ ў 1931 годзе.

Змоўчаў аб абставінах свайго «перасялення» з Лубянкі і сам Ян Каліксцавіч. І яшчэ пра многае не сказаў. Ці то з-за сціпласці, ці то з-за эканоміі часу.

Не ведаю, наколькі задаволілі адказы Ольскага членаў камісіі і тых, хто задаваў пытанні з залы, але, мяркуючы па стэнаграме пасяджэння, Ян Каліксцавіч расказаў пра сваю біяграфію вельмі коратка, літаральна штрыхамі. А расказаць было пра што.

...Забяспечаная сям'я ўрача, віленскага двараніна Калікста Кулікоўскага пасялілася ў Петраградзе ў 1915 годзе. З роднага маёнтка Бутрымовічы прыйшлося спешна эвакуіравацца з прычыны наступлення нямецкай арміі. Тады многія палякі сталі бежанцамі і пасяліліся ў расійскіх гарадах.

Уладкаваліся Кулікоўскія нібыта нядрэнна, калі так наогул можна гаварыць пра людзей, вымушана пакінуўшых родныя мясціны. Жыццё больш-менш уваходзіла ў нармальныя берагі. Аднак турбаваў галаву сям'і малодшы сын. Зусім выпадкова бацька даведаўся, што яго Янек рэгулярна наведвае петраградскі польскі рабочы клуб «Прамень». Мала таго, яшчэ і актыўна займаецца ў вольны ад урокаў у гімназіі час у маладзёжным гуртку па вывучэнню рэвалюцыйнай літаратуры.

— Занадта малады, каб займацца палітыкай, — вынес свой вердыкт Кулікоўскі-старэйшы. І катэгарычна забараніў сыну наведваць клуб. «Як жа так, — думаў Ян,—сам бацька ўдзельнічаў у Варшаўскім паўстанні 1863 года, быў прыгавораны да павешання і толькі па шчаслівай выпадковасці трапіў у Сібір, дзе правёў не адзін год. А вось цяпер перашкаджае сыну нават чытаць падпольную літаратуру». Ян вырашыў дзейнічаць па-свойму.

**З АЎТАБІЯГРАФІІ. «У 1915—1916 гадах... з групай таварышаў —Карэйва, Юхневіч, Клыс і іншыя (цяпер усе члены ВКП(б)) стварылі нелегальны гурток польскай моладзі, які быў пасля пераўтвораны ў Саюз польскай сацыялістычнай моладзі... і звязаны з сацыял-дэмакратыяй Польшчы і Літвы (Ляшчынскім-Ленскім, Бярновічам, Ціхаўскім і інш.). У 1917 годзе, пасля лютаўскай рэвалюцыі амаль увесь саюз уступіў у групу С-Д. ПіЛ».**

Такі выбар сына Калікст Кулікоўскі яўна не адобрыў, і Ян вымушаны быў пакінуць бацькоўскі дом. Ён думаў, што разлука будзе нядоўгай, бацька зразумее, памякчэе, пойдзе на збліжэнне. Але, на жаль, гэтага не адбылося. А затым рэвалюцыйныя падзеі і грамадзянская вайна развялі іх на ўсё астатняе жыццё.

Застаўшыся фактычна без сродкаў да існавання, Ян бярэцца за любую работу, пакуль не ўладкоўваецца рэпетытарам у багатую сям'ю. Удзень урокі з дзецьмі гаспадара, увечары выступленні на сходах польскай моладзі, выкананне розных даручэнняў, звязаных з выданнем і распаўсюджваннем газеты «Трыбуна». Яна заўважылі ў Выканкоме груп польскіх сацыял-дэмакратаў. Па рэкамендацыі вядомых польскіх рэвалюцыянераў З. Фабервіча і А. Арскага ў чэрвені 1917 года Ян становіцца членам Расійскай кампартыі. Так ён канчаткова зрабіў свой выбар—стаў бальшавіком.

Рэвалюцыйная работа звяла Яна Кулікоўскага з людзьмі, якія ў многім вызначылі яго далейшы лёс. Гэта былі будучы Старшыня Усерасійскай Надзвычайнай камісіі Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі і яго саратнік Іосіф Станіслававіч Уншліхт. Іменна яны ў кастрычніку 17-га рэкамендавалі Кулікоўскага для выбрання сакратаром польскай секцыі Петраградскай бальшавіцкай арганізацыі і адначасова прыцягнулі да тэхнічнай работы ў Ваенна-Рэвалюцыйным камітэце, занятым у гэты перыяд падрыхтоўкай паўстання.

**З АЎТАБІЯГРАФІІ: «У кастрычніцкія дні быў прыкамандзіраваны ў распараджэнне Рэўкома ў Смольным і 26 кастрычніка пасланы на тэлеграф у якасці памочніка камісара...».**

Партыйныя даручэнні ішлі адно за адным, і заўсёды Ян настойліва выконваў іх, кожны раз узбагачаючыся вопытам, так неабходным дзевятнаццацігадоваму партыйцу.

У напружанай рабоце праходзіць год.

У разгары грамадзянская вайна. Савецкая рэспубліка ў цяжкім становішчы. Петраградскі камітэт РКП(б) мабілізуе вялікую групу камуністаў у Чырвоную Армію. Ян Кулікоўскі не змог застацца ўбаку і радавым байцом уступае ў адну з воінскіх часцей. Але зусім нечакана яму даюць новае назначэнне — на падпольную работу ў яго родны горад Вільна. Для атрымання канкрэтных указанняў Ян зайшоў да Міцкевіча-Капсукаса — старшыні Цэнтральнага бюро літоўскіх секцый пры ЦК РКП(б) і толькі тады даведаўся, чаму выбар выпаў іменна на яго. Аказалася, што нелегальны Віленскі партыйны камітэт мае вострую патрэбу ў камуністах, якія добра ведаюць горад, маюць там сувязі ў розных сферах грамадства, а галоўнае —валодаюць польскай мовай. У Вільна тады жыло шмат палякаў, і сярод іх неабходна было разгарнуць рэвалюцыйную агітацыю, узнімаць на барацьбу за ўладу Саветаў.

Аб'явіўшы сябрам і знаёмым, што едзе на фронт, Ян Кулікоўскі непрыкметна знікае з Петраграда і пераходзіць лінію фронту.

Праз некалькі дзён на явачную кватэру віленскіх падпольшчыкаў увечары зайшоў малады чалавек і, абмяняўшыся з гаспадаром паролем, прадставіўся — Ольскі, Ян.

З гэтага часу сваё сапраўднае прозвішча — Кулікоўскі —Ян Каліксцавіч будзе ўпамінаць толькі ў афіцыяльных анкетах.

**З АЎТАБІЯГРАФІІ: «...працаваў членам нелегальнага Віленскага камітэта партыі. Пасля заняцця Вільна Чырвонай Арміяй працягваў работу ў гаркоме, быў выбраны сакратаром і членам Прэзідыума Віленскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў...».**

Дакументы, якія захаваліся ў партыйным архіве пры ЦК Літоўскай кампартыі і, перш за ўсё, рознага роду мандаты, дазваляюць храналагічна даследаваць...

кладна прасачыць, куды, для якіх заданняў накіроўвалі камуніста Ольскага, ведаючы яго неўтаймоўную энергію, не па ўзросту грунтоўную і гранічную добрасумленнасць.

У 1919 годзе Ян Каліксцавіч працаваў у саставе партыйна-арганізацыйнай тройкі, ствараючы камячэйкі на вызваленай ад ворага тэрыторыі Віленскай губерні. Як упаўнаважаны Савета Абароны Літоўска-Беларускай рэспублікі займаўся праводзеннем мабілізацыі ў Чырвоную Армію, кіраваў барацьбой з дэзерцірствам у шэрагу раёнаў, вырашаў няпростыя пытанні абмену палоннымі з белапольскімі часцямі. І гэта далёка не поўны пералік яго абавязкаў.

У адзін са жнівеньскіх дзён яго запрасіў да сябе член Рэўваенсавета 16-й арміі Іосіф Станіслававіч Уншліхт.

— Паслухай, Янек, я ўважліва вывучыў прадстаўленыя табой матэрыялы рэвізіі губернскага чэкісцкага апарату ў Мінску, — пачаў Уншліхт, — і прыйшоў да вываду, што вопыт падпольшчыка, навыкі партыйнай і савецкай работы дазваляюць табе аб'ектыўна меркаваць аб дзейнасці органаў ЧК, даваць нядрэнныя рэкамендацыі. Але гэта, як гаворыцца, погляд збоку. Думаю, для агульнай справы будзе лепш, калі ты непасрэдна зоймешся барацьбой з контррэвалюцыяй і шпіянажам. Давай вяртайся ў Вільна і разам з Піліпам Дзям'янавічам Мядзведзем арганізуй там асобы аддзел. Вось табе прадпісанне Цэнтральнага Камітэта.

Так пачаўся новы перыяд у жыцці Яна Каліксцавіча. Трынаццаць наступных гадоў прысвяціў ён чэкісцкай рабоце.

**З АЎТАБІЯГРАФІІ: «... са жніўня 1919 года працую ў органах ВЧК-АДПУ. Быў начальнікам асобага аддзела 16-й арміі, у 1920 годзе назначаны асобаўпаўнаважаным асобага аддзела Заходняга фронта,.. пры фарміраванні 1-й польскай Чырвонай Арміі мне была даручана арганізацыя яе асобага аддзела, а пасля я зноў назначаны ў 16-ю армію».**

**Алесь ЗДАНОВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**



# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## 21 мая

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Дом над Енісеем». Дак. фільм.
**9.00.** Выяўленчае мастацтва. 7 клас.
**9.30.** «Пушча». 1-я і 2-я серыі.
**12.00.** «Салдацкія мемуары». Фільм 2-гі «...І ордэнаў сваіх з сабою не прынята мець».
**13.00.** «Салдацкая казка». Мультфільм.
**13.15.** Весткі.
**13.30.** Канцэрт сімфанічнага аркестра Паўднёва-Заходняга радыё зямлі Бадэн-Бадэн.
**14.05.** «Размова з рэстаўратарам Аляксандрам Паповым». Дак. фільм.
**15.00.** Рытмічная гімнастыка.
**16.30.** Выяўленчае мастацтва. 4 клас.
**16.50.** «Залатыя рогі». Мастацкі фільм.
**18.00.** «Палац Марлі». Дак. фільм.
**18.10.** Гутарка пісьменніка У. Калесніка і старшыні аграфірмы «Беларусь» Івацэвіцкага раёна У. М. Рымшы.
**18.55.** Наш каментарый. Няшчасная прыватная гандлярка.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** «Гарадзецкая цацка». Дак. фільм.
**19.45.** Мерыдыян. Супрацоўніцтва парадненых гарадоў.
**20.20.** Спявае моладзь. Народны фальклорны ансамбль Палаца культуры чыгуначнікаў г. Мінска «Церніца».
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Тры тысячы песень», «Воранаўскія кадрылі». Дак. фільмы.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.00.** Актуальны рэпартаж.
**9.15.** «Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх». Мастацкі фільм.
**11.00.** Дзіцячая гадзіна (з урокам нямецкай мовы).
**12.00.** ТСН.
**12.15.** Разам з чэмпіёнамі.
**12.45.** Спявае В. Гатоўцава.
**13.05.** Дак. фільм «Быццё».
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Падрыхтоўка да экзамену». Мастацкі фільм.
**16.20.** М. Равель. «Балеро».
**16.40.** Дак. фільм «Экскурсія».
**17.00.** Дзіцячы музычны клуб.
**17.45.** Палітычныя дыялогі. У перадачы прымае ўдзел прэзідэнт Узбекскай рэспублікі І. А. Карымаў.
**18.30.** Мерыдыян.
**18.45.** Мультфільм.
**18.55.** Недыпламатычныя гутаркі. Прымае ўдзел Дзяржаўны сакратар дзяржавы Ватыкан монсеньёр Анжэла Садана.
**19.20.** «Бывай, шпана замаскварэцкая...» Мастацкі фільм.
**21.00.** Час.
**21.45.** «ВіД» прадстаўляе: «Поле цудаў».
**22.40.** Кінапанарама.
**0.20.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**9.55.** Адкрыццё IV З'езда народных дэпутатаў РСФСР.
**17.00.** «Свет, прагрэс, правы чалавека». Трансляцыя І Міжнароднага конкурсу памяці А. Д. Сахарава.
**18.00.** Дзённік з'езда.
**18.15.** Пазнаць адно аднаго. «За акном тваім». Пра жыццё рускамоўнага насельніцтва ва Узбекістане.
**19.00.** Канцэрт, прысвечаны памяці Ю. А. Янкялевіча.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** Рытмічная гімнастыка.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).

**Праграма тэлебачання Расіі**

**21.45.** На IV З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР. У перапынку (23.00)—Весткі.
**23.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.

## 22 мая

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Бурацкія ўзоры». Кінанарыс.
**9.00.** Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 4 клас. Віды і жанры выяўленчага мастацтва.
**9.20.** Ліра.
**11.20.** «Нас сустракае дзіцячы сад». Дак. фільм.
**11.35.** «І. Унгурану: прашу слова».
**11.45.** «Чэхаўская вясна ў Ялце». Старонкі тэатральнага фестывалю.
**13.15.** Весткі.
**16.30.** «Рыжы, сумленны, закаханы». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**17.45.** «Новая казка». Мультфільм.
**18.00.** «Вольніца». Дак. фільм.
**18.25.** Колькі каштуе будучыня. Падлеткі і эканамічная рэформа. Перадача з Гродна.
**18.55.** Наш каментарый. У сваёй хаце гаспадар.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** «Амарочка». Дак. фільм.
**19.45.** Шануйце песні свае. Музычная праграма.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** В. А. Моцарт. «Каранацыйная меса».
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.00.** Дзелавы кур'ер.
**9.20.** «Бывай, шпана замаскварэцкая...» Мастацкі фільм.
**11.00.** «Ранішняя песенька». Мультфільм.
**11.15.** Дзіцячы музычны клуб.
**12.00.** ТСН.
**12.15.** Канцэрт Вялікага сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё СССР.
**13.10.** «Дом на абочыне». Аб пансіянаце для адзінокіх старых.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Фатаграфія на памяць». Мастацкі фільм.
**16.25.** Свет захопленых. Дамком (дамашні клуб звычайных майстроў).
**16.40.** Фільмы для дзяцей «Лопух», «Зазірні ў дзяцінства».
**17.20.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**18.20.** Хвіліны паэзіі. А. Пшанічны.
**18.30.** Чалавек і закон. Прававы відэаканал.
**19.45.** «Дзямідавы». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.45.** «Дзямідавы». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**23.00.** Песня-91.
**23.55.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**17.00.** Дзённік з'езда.
**17.15.** «Візітная картка». Сустрэча з кіраўнікамі прадпрыемстваў Ленінграда.
**18.25.** «Багач... бядняк». Ці адбудзецца рэферэндум аб нацыяналізацыі ўласнасці КПСС.
**18.45.** «Санітар з-за «бугра».
**19.00.** Канцэрт гітарыста Масіма Гасбароні (Італія).
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** «Эскадрон». Аб праблемах прызыву ў армію.
**20.50.** Выступленне ансамбля «Днястране».
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).

**Праграма тэлебачання Расіі**

**21.45.** На IV З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР. У перапынку (23.00)—Весткі.
**23.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.



# ДОКАЗНАСЦЬ ЭКСПЕРЫМЕНТА

## *Загадкавае. Неверагоднае. Фантастычнае*

СВЕДЧАННІ, якія пацвярджаюць феномен прадказання, атрыманы былі за апошні час і ў лабараторных умовах, ва ўмовах навуковага эксперымента.

У Дзюкскім універсітэце (ЗША) праводзіліся доследы па прамому веданню. Спецыяльнае прыстасаванне выкідвала перад адным з удзельнікаў па прынцыпу выпадковасці адну за адной карты Зенера (пяць карт з адлюстраваннем прасцейшых геаметрычных фігур — квадрата, круга, крыжа, зоркі і дзвюх хвалістых ліній, якія выкарыстоўваюцца ў псіхалагічных доследах). Другому ўдзельніку, які не мог бачыць іх, трэба было адгадваць кожны раз, якая карта выпала. Шматлікія эксперыменты пацвердзілі — феномен прадказання існуе. Ці могуць факты такога апераджальнага ведання быць растлумачаны выпадковасцю, супадзеннем? Статыстычны аналіз дазволіў разлічыць, якая верагоднасць гэтага. Для серыі доследаў з 90.000 такіх спроб верагоднасць таго, што атрыманыя вынікі выпадковыя, адлюстравалася вельмі малой велічынёй $10^{-12}$.

У іншых серыях доследаў быў выкарыстаны генератар выпадковых лічбаў — прыстасаванне, якое складаецца з невялікай колькасці радыеактыўнага рэчыва і лічыльніка Гейгера. Лічыльнік рэгіструе эмісію свабодных электронаў, частата з'яўлення якіх адвольная. Калі гэта адбываецца, замыкаецца электрычны ланцужок. У доследах генератар у адвольнай паслядоўнасці ўключаў адну з чатырох рознакаляровых лямпачак, устаноўленых перад выпрабоўваемым. Задача заключалася ў тым, каб прадказаць, якая з лямпаў успыхне наступнай.

І ў гэтых эксперыментах феномен прадказання атрымаў пацвярджэнне: колькасць правільных прадказанняў таксама значна перавысіла лічбу, якая статыстычна магла б сведчыць аб выпадковасці.

Па зусім іншай схеме праводзілася трэцяя група эксперыментаў. У лабараторыі, якая знаходзіцца ў Чыкага, было падрыхтавана 100 запячатаных канвертаў з адрасамі розных месц, размешчаных у горадзе і яго наваколлях. Метадам выпадковай выбаркі адбіраліся 10 такіх канвертаў і ўручаліся ўдзельніку эксперымента. Пасля гэтага ён садзіўся ў машыну і адпраўляўся ў адвольным напрамку. Пакуль ён быў у дарозе, другому ўдзельніку, які заставаўся ў лабараторыі, прапаноўвалася зрабіць спробу прадказаць, як можа выглядаць месца, у якім праз нейкі час акажацца першы. Тэкст такога паказання дыктаваўся на магнітафон, іншы раз суправаджаўся малюнкам.

Калі мінуў час, адведзены на прадказанне, першы, які знаходзіўся ў дарозе, вымаў наўгад з закрытай скрынкі адзін з жэтонаў, ускрываў па яго нумару адпаведны канверт з адрасам і накіроўваўся туды. Прыбыўшы на месца, ён рабіў некалькі здымкаў і вяртаўся ў лабараторыю.

Пасля гэтага параўноўвалі абодва сведчанні: апісанне, складзенае ў лабараторыі, і фота, зробленае на месцы.

У адной з такіх серый са 157 апісанняў, зробленых з апераджэннем у часе, 88, г. зн. больш палавіны, былі прызнаны дакладнымі.

ПА ТОЙ ЖА СХЕМЕ быў праведзены эксперымент, у якім прадказанне рабілася за 24 гадзіны да будучай падзеі, а ўдзельніку, што знаходзіўся за тысячы кіламетраў ад лабараторыі, трэба было прыбыць на месца і сфатаграфаваць яго. Пяць такіх спроб выявілі наступную ступень супадзенняў: у трох выпадках 25 працэнтаў, у двух — 50 працэнтаў.

Вось адзін з прыкладаў такога прадказання. Удзельнік эксперымента, які знаходзіўся ў лабараторыі, апісвае карціну свайго бачання: «Вароты або агароджа, зробленыя з нейкага металу. Збудаванне вельмі высокае для варот. Цёмны метал. Людзі ідуць. Нейкі круг... Пліта на пастаменце... Лаўка або стол... Нешта падобнае на некалькі дзвярэй або ўваходаў.. Круглы фантан, клумбы з кветкамі....».

Так з апераджэннем на суткі было апісана тое, што ўбачыў другі ўдзельнік эксперымента, які прыбыў у Маскву, на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі. Перад тым як увайсці на тэрыторыю выстаўкі, дзе сапраўды было шмат кветнікаў і фантанаў, ён некалькі мінут разглядаў высокія стальныя вароты ўваходу і сфатаграфаваў іх.

Гэтыя доследы, як і мноства іншых, мелі на мэце высветліць, ці сапраўды існуе феномен прадбачання і наколькі ўстойліва праяўляецца ён ва ўмовах строгага навуковага эксперымента.

Існуе пункт гледжання, згодна з якім прарочая здольнасць чалавека — уласцівасць яго далёкага жывёльнага продка. Калі так, то лагічна задацца пытаннем, ці ёсць такая здольнасць жывёльнага свету.

Аб дзіўных паводзінах жывёлы напярэдадні землетрасенняў было вядома даўно. Асабліва ў народаў, дзе бедства гэта здараецца дастаткова часта. Такая традыцыя здавён існуе, напрыклад, у Кітаі. Сейсмолагі, якія працуюць у розных краінах свету, былі здзіўлены, калі разбуральнае землетрасенне 1975 года аказалася загадзя вядомым кітайцам. Іх папярэдзілі аб гэтым не складаныя сейсмічныя прыборы, не матэматычныя разлікі, а паводзіны свойскай жывёлы і масавае з'яўленне змей. Звычайна яны спяць у норах у гэты час года, але напярэдадні падземнага ўдару мноства іх з'явілася на паверхні, прама на снезе.

У свой час савецкія газеты вельмі скупа паведамлялі аб згубным землетрасенні 1948 года, якое разбурыла сталіцу Туркменіі Ашхабад. Але яшчэ тады вучоным удалося запісаць некаторыя сведчанні, якія маюць адносіны да нашай тэмы. Аказваецца, напярэдадні катастрофы да сакратара гарадскога камітэта партыі прыйшлі старыя туркмены і аб'явілі яму, што вось-вось пачнецца землетрасенне. Калі ён спытаў, адкуль ім гэта вядома, калі пра тое не ведае ніводзін вучоны, не ведае Акадэмія навук, яны адказалі:

— Змеі і яшчаркі выйшлі з нор.

Каб начальства магло паверыць, што іншым істотам можа быць вядома больш, чым чалавеку, і прыняло належныя меры, магчыма, ахвяр ад землетрасення аказалася б значна менш.

Здольнасцю прадбачыць будучае, мяркуючы па ўсім, надзелены і птушкі. Факт, які сведчыць аб гэтым, прыводзіў яшчэ Чарльз Дарвін. Падарожнічаючы ў 1835 годзе на караблі «Бігль» ля берагоў Паўднёвай Амерыкі, ён назіраў, як гадзіны за дзве да чылійскага землетрасення птушкі вялікімі чародамі ўзнімаліся ў паветра, адлятаючы ад узбярэжжа ўглыб мацерыка. Пра паводзіны птушак перад землетрасеннем сведчаць відавочцы і ў Алма-Аце (1887 г.) і ў Ташкенце (1956 г.).

Мяркуючы па ўсім, некаторыя свойскія жывёлы наогул адчуваюць набліжэнне няшчасця, якое павінна ў бліжэйшы час спасцігнуць дом і сям'ю, у якой яны жывуць. Шмат расказаў пра сабак, якія выюць у доме, калі там у хуткім часе павінен нехта памерці. У Расіі гэта з'ява стала ўстойлівай народнай прыкметай.

Гаворачы аб даследаваннях у галіне прароцтваў, якія праводзяцца ў СССР, нельга яшчэ раз не ўспомніць групу пры Саюзе навуковых і інжынерных таварыстваў. У адным з эксперыментаў Інзе П. была паказана фатаграфія 22-гадовай студэнткі. Аб тым, што зроблена яна была 30 гадоў назад, Інга, зразумела, не ведала. Калі ўявіць, што на самім фота магла захавацца нейкім чынам інфармацыя, якая адносілася да таго часу, то як растлумачыць, што, ледзь глянуўшы на яго, Інга падрабязна стала гаварыць пра тое, што звязана з гэтай жанчынай, але датуецца не тымі гадамі, а цяперашнім часам? Інакш кажучы, часам, які быў аддаленым будучым у той момант, калі было зроблена само фота.

«Яна замужам, — гаварыла Інга,—дзіцяці—дачцэ 17 гадоў, жывуць у горадзе, хоць родам з вёскі, муж служачы, здольны арганізатар, прывабны, носіць акуляры, смуглявы, коратка стрыжаныя валасы, шырокі лоб, вочы карыя, абаяльна ўсміхаецца, працуе з кнігамі...»

Калі сказанае было супастаўлена з рэальнасцю, аказалася, што мера дакладнасці складае 75 працэнтаў. Гэта вельмі высокая лічба для эксперыментаў такога роду.

Кожны з такіх доследаў суправаджаецца пратаколам, якіх ужо даволі многа, але якія рэдка знаходзяць выхад куды-небудзь за межы вузкага кола асоб, што займаюцца гэтай праблемай. Рэдкае выключэнне—публікацыя ў адным з маскоўскіх часопісаў за 1988 год. Аўтар яе расказвае, у прыватнасці, аб эксперыменце, на якім ён прысутнічаў, калі членам групы была дадзена фатаграфія жанчыны, зробленая 24 гады назад. Вось як выглядае інфармацыя, што «ішла» праз членаў групы і запісвалася ім у той паслядоўнасці, у якой гэта адбывалася. Даныя, якія аказаліся ў выніку сапраўднымі, ён адзначыў літарай П (правільна), няправільныя—літарай Н.

«Ёй цяпер 48 гадоў (П). У яе стойкі астэахандроз (П). Мае псіхічныя складанасці (П). Рэактыўны псіхоз (П). Ёсць дзіця — дзяўчынка (П). Не вельмі здаровая (П). Дзіцяці 14 гадоў (Н). Дзяўчынка добра малюе (П). Дзяўчынка поўная—парушэнне абменных працэсаў (П). Вучыцца добра (П): Святлана (П). Мае патрэбу ў псіхатэрапіі (Н). Вочы ў дзіцяці непрамыя, куточкі павекаў апушчаны ўніз. Зрэнкі не факусіруюцца, «плаваючыя» (П). У К. яшчэ ёсць хлопчык (Н). Ён больш актыўны і жвавы (Н). Сама медсястра (Н). Муж няшчасны (П). Па характару добры, астэнічны, слабы (П). Моцна п'е (П)».

**Аляксандр ГАРБОЎСКІ.**

**(Заканчэнне будзе).**

# РАДЫЁ

## 22 мая

Апошнія паведамленні: 5.00, 6.00, 8.00, 10.00, 12.00, 15.00, 16.00, 17.00, 19.00, 20.10, 22.00, 23.00.

7.00 — «Радыёфакт». 8.15 — «НТР: навукова-тэхнічны радыёвеснік». 9.15 — да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. «Вяшчун будучыні». Нататкі А. Клышкі. Перадача 1-я. 9.40 — канцэрт. 10.15 — радыёстанцыя «Арляняты». «Пісьменнікі Радзімы — дзецям». Ю. Казлоў. «Бабуля Параска, салдацкія дзеці і салдатка». Па старонках апавядання. 11.20 — «Мітынговая абструкцыя». Як прафсаюзныя камітэты рэспублікі апынуліся ў няміласці стачкомаў. 12.00 — радыёстанцыя «Саюз». 12.30 — «У абедзенны перапынак». Інфармацыйна-музычная праграма. 13.30 — «На хвалі часу». 14.00 — «Чырвоны! Жоўты! Зялёны!». Перадача для вадзіцеляў і пешаходаў Канцэрт «Для тых, хто ў дарозе». 14.50 — «Урадавая прэс-служба паведамляе». 15.30 — «За» і «супраць». Праблемна-публіцыстычная перадача. 16.00—«Навіны». Радыёдзённік сесіі Вярхоўнага Савета БССР. 16.15 —«Актава». Музычная праграма для школьнікаў і навучэнцаў ПТВ. 17.15 — канцэрт. 18.40 — «Ад нашага ўласнага карэспандэнта». 19.30 — на сесіі Вярхоўнага Савета БССР. На З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР. 20.00 — вячэрняя казка. 20.10 —«Дзень нашага жыцця». На сесіі Вярхоўнага Савета БССР. 20.50 — А. Дудараў. «Парог». Радыёспектакль. Частка 2-я 21.40 — «Аддай сваё сэрца музе». 22.15 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная. 23.15 — радыёстанцыя «Юнацтва».

# НАДВОР'Е

## 21 мая

**Усход, заход, даўжыня дня:**

**Мінск — 4.58, 21.14, 16.16: Віцебск — 4.41, 21.11, 16.30; Магілёў — 4.47, 21.03, 16.16; Гомель — 4.51, 20.55, 16.04; Гродна — 5.13, 21.30, 16.17; Брэст — 5.23, 21.21, 15.58.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам дажджы. Тэмпература паветра ў Гродна 10—12, Мінску, Брэсце, Віцебску — 11—13, Магілёве — 12—14, Гомелі — 13—15 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак халаднаватае надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра ўначы 2—7 градусаў цяпла. На тарфяніках Палесся слабыя замаразкі да 0—2 градусаў марозу, удзень 22-га 10—15, 23-га — 7—12 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

# Тыраж «Спортлато»

Вынікі 20-га тыражу, які адбыўся 19 мая г. г.

**«Шэсць з 45»:**

2—8—25—28—35—40.

**«Пяць з 36»:**

12—20—30—32—35.

(ТАСС).

**Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.**

НАШ АДРАС

220041, гор. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

**ТЭЛЕФОНЫ:** прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52; 32-41-92, рэкламы і аб'яў — 32-35-91, навін — 32-60-13.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Тыраж 102.822.
Індэкс 63850.
Зак. № 97.

*Выходзіць 250 разоў на год.*

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12